# Голас Радзімы

№ 9 (2047)
3 сакавіка 1988 г

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Апошні выхад.** Так, напэўна, можна было б назваць гэты здымак, які зрабіў наш фотакарэспандэнт С. КРЫЦКІ. 15 лютага ён выязджаў у паляўнічую гаспадарку «Макоўза», што пад Лагойскам, і стаў сведкам закрыцця паляўнічага сезона. (Заканчэнне фотарэпартажу змешчана на 8-й стар.).

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# СУСТРЭЧА М. С. ГАРБАЧОВА З ДЖОРДЖАМ ШУЛЬЦАМ

22 лютага М. С. Гарбачоў сустрэўся ў Крамлі з дзяржаўным сакратаром ЗША Дж. Шульцам. Гэта яшчэ адно важнае звяно ў савецка - амерыканскім дыялогу, які набывае ўсё больш змястоўны і рэгулярны характар.

У ходзе гутаркі М. С. Гарбачоў і Дж. Шульц абмяняліся думкамі аб тым, як рэалізуюцца дагаворанасці, дасягнутыя ў снежні, і ў якім стане знаходзіцца падрыхтоўка да маючага адбыцца візіту ў СССР прэзідэнта Рэйгана.

Субяседнікі абмяняліся інфармацыяй аб ратыфікацыі Дагавора аб РСМД і выказалі ўпэўненасць, што ён будзе ратыфікаваны, хоць, натуральна, ужо запатрабаваліся і яшчэ запатрабуюцца растлумачэнні, якія б пераконвалі ў тым, што дагавор—надзейны і раўнапраўны.

З ратыфікацыяй звязаны перспектывы заключэння дагавора па стратэгічных наступальных узбраеннях. М. С. Гарбачоў выказаў думку, што пакуль яшчэ ёсць час, каб грунтоўна падрыхтаваць гэты дагавор.

М. С. Гарбачоў прапанаваў рад новых ідэй па канкрэтных аспектах скарачэння розных відаў стратэгічнай ядзернай зброі, маючы на ўвазе надаць большую дынаміку праводзімым перагаворам, пошукам узаемапрымальных развязак. У сувязі з гэтым грунтоўна было абмеркавана пытанне аб кантролі, які абодвум бакам уяўляецца больш складаным, чым у выпадку з РСМД.

М. С. Гарбачоў выказаў здзіўленне пазіцыяй ЗША на перагаворах па забароне хімічнай зброі, якая тармозіць выпрацоўку міжнароднай канвенцыі. Унёс прапановы, якія маглі б быць сумесна прапанаваны да сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Маскве.

Субяседнікі пацвердзілі сваю ацэнку важнасці вырашэння праблемы звычайных узбраенняў і ўзброеных сіл у Еўропе.

Грунтоўна былі абмеркаваны рэгіянальныя канфлікты. Мы — СССР і ЗША — павінны паказаць усяму свету, сказаў М. С. Гарбачоў, прыклад узаемадзеяння ў гэтай важнейшай сферы міжнароднага жыцця на аснове балансу інтарэсаў усіх без выключэння зацікаўленых бакоў.

Цяпер сітуацыя спрыяе мірнаму ўрэгуляванню крызісаў. Тут дзейнічаюць і фактары ўнутранага парадку — з боку тых, хто непасрэдна ў іх уцягнуты, і фактары агульнага парадку—пазіцыі, якія сталі пераважаць у сусветнай супольнасці.

Па пытанню аб Афганістане субяседнікі зноў выказаліся за тое, каб будучы раунд жэнеўскіх перагавораў быў апошнім.

М. С. Гарбачоў запрасіў Дж. Шульца прытрымлівацца наяўных дагаворанасцей, садзейнічаючы спыненню канфлікту ў формах, якія выключаюць кровапраліцце і забяспечваюць Афганістану становішча незалежнай, недалучанай і нейтральнай дзяржавы. А для гэтага трэба, каб афганцы самі вырашалі свае справы, без усякага ўмяшання звонку.

Па пытанню аб ірана-іракскай вайне і становішчы ў Персідскім заліве М. С. Гарбачоў абяцаў Дж. Шульцу разгледзець некаторыя прапанаваныя ім ідэі.

М. С. Гарбачоў выказаўся адносна плана блізкаўсходняга ўрэгулявання, прапанаванага нядаўна амерыканцамі: план гэты непаслядоўны, у ім не захаваны прынцып уліку інтарэсаў усіх уцягнутых бакоў. Робіцца акцэнт на прамежкавых мерах і кроках, адносна якіх у СССР няма ў прынцыпе пярэчанняў. Але яны, як цяпер ужо многім ясна, могуць даць вынік толькі ў кантэксце рашэння аб склікані міжнароднай канферэнцыі, г. зн. — усеахопнага ўрэгулявання. Дамовіліся вярнуцца да абмену думкамі пасля паездкі Дж. Шульца на Блізкі Усход.

Спакойнае, сур'ёзнае абмеркаванне сутнасці праблем і спосабаў іх вырашэння, якім характарызавалася гутарка, прадэманстравала разуменне яе ўдзельнікамі адказнасці за развіццё падзей у сучасным свеце.

АХОВА ЗДАРОЎЯ



Новае аддзяленне гіпербарычнай аксігенацыі адкрылася ў Гомельскай абласной бальніцы. У комплексе з іншымі метадамі баратэрапія дапамагае паспяхова змагацца з многімі хваробамі.
НА ЗДЫМКУ: да лячэння кіслародам пад ціскам рыхтуе хворага медсястра Марыя БАРЭЙША.

АЎТАСЕРВІС

## ЭКАЛАГІЧНА БЯСШКОДНЫЯ

Новая служба з'явілася ў беларускай сталіцы —пункт пераагляду. Неабходнасць стварэння яе выклікана тым, што аўтатранспарт рэспублікі пераходзіць на газавае паліва. Цяпер толькі ў горадзе Мінску эксплуатуецца звыш 2 тысяч экалагічна бясшкодных аўтамабіляў.

У абавязкі новай службы аўтасервісу ўваходзіць выпрабаванне паліўных сістэм газабалонных аўтамабіляў. Праект пункта пераагляду распрацаваны навукова-вытворчым аб'яднаннем «Аўтатранстэхніка», а абсталяванне выраблена і пастаўлена Мінаўтатрансам РСФСР.

АБСЛУГОЎВАЮЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ «ТРЭЦЯГА» ЎЗРОСТУ

Румянымі пірагамі, на якіх красавалася лічба 100, сустрэлі першых навасёлаў у Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў у Віцебску. Адкрыццё яго супала са стогадовым юбілеем адразу трох пенсіянерак — Сцепаніды Шарковай, Варвары Іртыш і Настассі Афіцэравай. Расчуленыя ўвагай доўгажыхаркі з задавальненнем агледзелі свае новыя прасторныя і ўтульныя пакоі, хол з мяккімі крэсламі і каляровым тэлевізарам, сталовую, багатую бібліятэку... Да паслуг навасёлаў — урачэбныя кабінеты, аснашчаныя ўсім неабходным, кіслародныя кактэйлі, вітамінны бар.

Цэнтр прыняў больш ста адзінокіх састарэлых людзей. У ім тры аддзяленні: тым, хто не пажадаў расстацца з домам, выдзелены пакоі дзённага ці тыднёвага знаходжання. Тыя, хто атрымлівае невялікую пенсію, узяты на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне. А ў платным аддзяленні кожны ўносіць 75 рублёў у месяц — палавіну той сумы, якую расходуе дзяржава на ўтрыманне аднаго чалавека ў Цэнтры.

ДАСЛЕДАВАННІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

## У АДКРЫТЫМ КОСМАСЕ

У адпаведнасці з праграмай палёту пілатуемага комплексу «Мір» Уладзімір Цітоў і Муса Манараў 26 лютага ажыццявілі выхад у адкрытую касмічную прастору і зрабілі мантаж эксперыментальнай сонечнай батарэі.

Спачатку касманаўты адкрылі знадворны люк пераходнага адсека. Потым яны вынеслі на знешнюю паверхню станцыі неабходнае абсталяванне. Інструменты і перайшлі ў зону правядзення мантажных работ да трэцяй сонечнай батарэі. Гэта батарэя была ўсталявана на станцыі Юрыем Раманенкам і Аляксандрам Лавейкіным у чэрвені мінулага года.

З дапамогай спецыяльнага механізма касманаўты склалі ніжнюю частку ферменнай канструкцыі батарэі, адстыкавалі адну з двух яе секцый і ўстанавілі новую на свабоднае месца. Пасля злучэння электрычных раздыманняў экіпаж зноў раскрыў сонечную батарэю на поўную даўжыню.

Новая секцыя батарэі аснашчана ўзорамі фотаэлектрычных пераўтваральнікаў з паўправаднікових матэрыялаў з палепшанымі энергетычнымі характарыстыкамі.

Перад вяртаннем на станцыю касманаўты агледзелі вонкавыя элементы канструкцыі комплексу, устанавілі шэраг навуковых прыбораў і дэмантавалі ўзоры матэрыялаў, якія працягла час экспанаваліся ва ўмовах адкрытай касмічнай прасторы.

Час знаходжання У. Цітова і М. Манарава ў адкрытым космасе склаў 4 гадзіны 25 мінут.

СЯБРОЎСКІЯ СУВЯЗІ

## СА ШЧЫРАЙ ЦЕПЛЫНЁЙ

Прыняўшы ўдзел у традыцыйным рытуале ўпрыгажэння апельсінавага дрэва, маладыя рабочыя і спецыялісты Мінскага камвольнага камбіната атрымалі рэдкую магчымасць другі раз сустрэць Новы год 16 лютага — па месячнаму календару. Яе прадставілі пасланцы В'етнама, якія прыбылі ў Мінск. Тут яны пройдуць трохмесячныя курсы па вывучэнню рускай мовы і навучанню сваёй будучай спецыяльнасці, а затым зоймуць рабочыя месцы ў цэхах камбіната побач з савецкімі тэкстыльшчыкамі.

«Яблыня, якую мы ўпрыгожылі, як апельсінавае дрэва, для сумеснай сустрэчы самага любімага ў нас свята, а таксама непрывычны мароз толькі падкрэсліваюць шчырую цеплыню беларускіх рабочых, якія прынялі нас у свой калектыў». Такія словы гаварылі в'етнамскія рабочыя.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ГАСЦІНІЦА Ў КАЛГАСЕ

Новы будынак гасцініцы вырас побач з Палацам культуры ў калгасе «Чырвоная зорка» Стаўбцоўскага раёна. З вокнаў утульных пакояў адкрываецца цудоўны краявід з возерам і лясным ландшафтам. Аснашчаны сучасным абсталяваннем харчовы блок дае магчымасць хутка і смачна гатаваць стравы.

Будынак гасцініцы ўзведзены калгасам уласнымі сіламі.

НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ



Захапленне Анатоля КАРТАШОВА — выраб сувеніраў. Яны ў яго своеасаблівыя. Доўгія гады працаваў Анатоль Сяргеевіч на магілёўскім заводзе «Строммашына». Мініяцюрныя дзеючыя мадэлі тых вырабаў, што выпускае прадпрыемства, і сталі яго сувенірамі. Дэманструюцца яны і на галоўнай выстаўцы краіны, дзе за віртуознае выкананне іх аўтар быў удастоены летась бронзавага медаля. З сувенірамі Карташова знаёмы таксама і ў гарадах-пабрацімах Магілёва ў Балгарыі, Польшчы, Францыі.

У НАРАЎЛЯНСКІХ КАНДЫТАРАЎ

## НА НАТУРАЛЬНАЙ СЫРАВІНЕ

Амаль удвая павялічыла свае магутнасці старэйшая ў рэспубліцы кандытарская фабрыка «Чырвоны мазыранін». Тут уступіў у строй сучасны корпус па выпуску ласункаў. Акрамя традыцыйных цукерак, зефіру, пасцілы, высокія смакавыя якасці якіх прынеслі заслужаную славу прадпрыемству, мясцовыя кандытары плануюць выпускаць сметанковы ірыс, «Птушынае малако», рабінавыя і малінавыя мармелады. Уся прадукцыя будзе выраблацца толькі на аснове натуральнай сыравіны.

Калектыў фабрыкі штогод будзе пастаўляць гандлю больш за 11 тысяч тон прадукцыі.

ПОПЫТ — ПРАПАНОВА

## ФАРБЫ КІРМАШУ

У НЕПРЫВЫЧНАЙ ДЛЯ СЯБЕ РОЛІ ПАКУПНІКОЎ ВЫСТУПІЛІ УНІВЕРМАГІ І БУЙНЕЙШЫЯ МАГАЗІНЫ МІНСКА НА ПЕРШЫМ У РЭСПУБЛІЦЫ КІРМАШЫ ДЛЯ КААПЕРАТЫВАЎ. ЗАЯЎКІ НА ЎДЗЕЛ У РАСПРАДАЖЫ ПАПЯРЭДНЕ ПАДАЛІ ЗВЫШ 150 КААПЕРАТЫВАЎ І АСОБ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ПРАЦОЎНАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ.

На імправізаваных прылаўках — арыгінальная біжутэрыя, вырабы з лазы і дрэва, ручное ткацтва... Фае Дома культуры тэкстыльшчыкаў ператваралася то ў дэманстрацыйную залу — свае мадэлі адзення прадстаўлялі тыя, хто іх вырабіў, то ў своеасаблівы аўкцыён — жадаючых купіць некаторыя вырабы было нават больш, чым тавару.

У «індывідуалаў» Мінска многа канкурэнтаў. Сваю прадукцыю на гэты своеасаблівы конкурс фантазіі і вынаходлівасці прывезлі таксама госці з Гродна, Рыгі, Вільнюса, Каўнаса, Малдавії. Лепшыя вырабы, закупленыя гандлем, будуць затым прадавацца ў магазінах горада.

Каля вітрын з пушыстымі, прыгожымі пледамі горача абмяркоўваюць прыёмы ручнога ткацтва Украіны і Беларусі. На шыльдачцы лаканічны надпіс: «УССР. Кааператыў «Узоры Прыкарпацця», Івана-Франкоўск».

— Мінчане проста малайцы,— гаворыць старшыня кааператыва Наталля Чэрнікава.— Мы даведаліся аб вашым кірмашы з аб'явы ў сваёй гарадской газеце. У нас на Украіне пакуль такія не праводзяцца. Рызыкнулі пусціцца ў няблізкую дарогу. Надзеі поўнасцю спраўдзіліся. Нашы пакрывалы закупілі буйнейшыя універмагі Мінска «Беларусь», ЦУМ і ГУМ — усяго на 130 тысяч рублёў. У нас кожная гаспадыня можа пахваліцца сваім рукадзеллем. Абласны рынак робіцца цесным для майстроў «Узораў Прыкарпацця». Мінскі кірмаш дапамог наладзіць новыя кантакты. Думаю, што беларускія кааператывы таксама знойдуць на Украіне ўдзячных пакупнікоў.

...У аргкамітэце кірмашу паведамілі, што толькі за дзень гандаль горада заключыў дагаворы на 2 мільёны рублёў.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# ЗНАЙСЦІ ПАДТРЫМКУ НАРОДА

**На выбарах дырэктара завода парашковай металургіі — буйнейшага з усіх 30 прадпрыемстваў стотысячнага горада Маладзечна — не было, як звычайна заведзена, прадстаўніка гаркома партыі... Гэта не ўкладвалася ў існуючыя раней правілы: без узгаднення з партыйным органам на кіраўніцтва нават участкам ці цэхам людзей не вылучаюць. А тут месца дырэктара! Аб пошуках новых форм у партыйнай рабоце, яе дэмакратызацыі расказвае першы сакратар Маладзечанскага гарадскога камітэта партыі Яўстафій СТАХОЎСКІ.**

— Не падумайце, што там праводзіўся нейкі арганізацыйна-псіхалагічны эксперымент. Забягаючы наперад, скажу: дырэктара выбралі талковага і без нашага ўмяшання, — гаворыць Яўстафій Стахоўскі. — Але і ў гэтым выпадку мы не засталіся староннімі назіральнікамі. Гаспадарчая палітыка кіраўніцтва завода не раз аналізавалася гарадскім партыйным камітэтам. Хранічнае невыкананне плана, брак, які ўзраставў, страты тут з зайздроснай упартасцю тлумачыліся непазбежнымі цяжкасцямі станаўлення маладога прадпрыемства. Яго кіраўнікі, як шчытом, прыкрываліся агульнымі разважаннямі аб складаных праблемах развіцця парашковай металургіі — самай юнай галіны рэспублікі.

І тады мы вырашылі прыехаць на завод і пагаварыць з рабочымі. Гэта былі шчырыя гутаркі аб шляхах выхаду з прарыву..

У размове з рабочымі «выявіліся» шматлікія факты безгаспадарчасці, якую дапускала кіраўніцтва прадпрыемства, няўменне забяспечыць належны ўзровень кіравання, парушэнне прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці, у прыватнасці, у размеркаванні жылля і многае іншае. І ўсе разам мы прыйшлі да катэгарычнага вываду: дырэктара і некаторых галоўных спецыялістаў прыйдзецца вызваляць ад займаемых пасад. Другога выйсця ўжо не было. Але і мы ў гаркоме зрабілі для сябе сумны вывад з гэтай сітуацыі: страцілі патэнцыяльна нядрэнных кіраўнікоў, не здолелі дапамагчы ім, не перасцераглі ад памылак. А ў іх саміх не хапіла смеласці пайсці за парадай да людзей.

Калі коратка сфармуляваць сутнасць дзейнасці любога партыйнага органа, то яна перш за ўсё зводзіцца да работы з людзьмі. Калі бачыш, што кіраўнік знайшоў кантакт з калектывам, не цярабі яго па дробязях, а наадварот — дай прастору ініцыятыве, дай яму поўную самастойнасць.

Сутнасць сённяшняй партыйнай работы — гэта не звонкія прапагандысцкія фразы, а канкрэтнасць. Толькі ў гэтым выпадку любая партыйная ініцыятыва можа быць прынята людзьмі.

Ледзь ці не самым цяжкім у перабудове стылю і метадаў партыйнага кіраўніцтва на месцах застаецца пераадоленне «лічбавых» падыходаў. Вядома, без грунтоўных статыстычных выкладак стан спраў не прааналізуеш. Аднак яны, нават лічбы росту, патрэбны не самі па сабе. Трэба ўмець ва ўсіх в[illegible]цках адказаць на пытанне, якіх адносінах дынаміка такіх лічбаў знаходзіцца з працэсам рэальнага росту дабрабыту людзей, паляпшэннем умоў іх працы і быту, інтэнсіфікацыяй духоўнага і культурнага жыцця, [illegible]ацаваннем парадку і ды[illegible]пліны, сцвярджэннем патрабавальнасці і справядлівасці. Іншымі словамі, за радкамі статыстыкі трэба бачыць чалавека — галоўную фігуру ў перабудове.

Правёўшы падобныя гутаркі ў цэхах на іншых прадпрыемствах горада, мы выявілі мноства сведчанняў таго, як няпроста асвойваюцца новыя падыходы, пераадольваецца кансерватызм, інерцыя, застой у думках і дзеяннях. Ёсць яшчэ пакуль такія партыйныя камітэты на некаторых прадпрыемствах, ва ўстановах, якія па-ранейшаму «цягнуць да сябе» літаральна ўсе пытанні, замест таго каб заняцца, нарэшце, сваёй справай — ствараць у працоўных калектывах здаровую атмасферу абнаўлення, аб'яднаць людзей для вырашэння такіх няпростых нашых праблем.

Аснова партыйнай работы — чалавеказнаўства. Зыходзячы з такіх прынцыпаў, сёння новым зместам напаўняецца дзейнасць Савета дырэктараў прадпрыемстваў горада Маладзечна, універсітэта тэхнічнага прагрэсу, створаных пры гаркоме на грамадскіх пачатках. На іх нам удалося, нарэшце, пры абмеркаванні сумежных праблем ад былых абяцанняў перайсці да кааперавання сіл і сродкаў для хутчэйшага пераўзбраення вытворчасці, развіцця ўласнага станкабудавання, укаранення рэсурсазберагаючых тэхналогій. Публічнасць дапамагла разбурыць ведамасныя бар'еры.

Зразумела, не ўсё ў нас атрымліваецца. Але мы ведаем: ведучы перабудову, не варта пасаваць перад наяўнасцю негатыўных з'яў, як гэта было ў выпадку з кіраўніцтвам завода парашковай металургіі, з якога я пачаў расказ. Майстэрства перабудовы складанае. Яму трэба вучыцца кожны дзень. Прычым, вучыцца на хаду, не чакаючы ўказанняў зверху.

Бываюць і такія факты. Атрымаўшы дэмакратычныя правы вылучаць любую кандыдатуру на кіруючыя пасады, там-сям паставіліся да новаўвядзення па-кампанейску, як і раней. І замест чаканага прыліву сацыяльнай актыўнасці працоўных пасялілі ў душах людзей скептыцызм, нявер'е ў добрае пачынанне. На адным прадпрыемстве рабочыя прапанавалі вызваліць з пасады начальніка канструктарскага бюро. Але на абарону «выгаднага» начальніка стаў калектыў канструктараў, які падпарадкоўваецца яму. І групавы эгаізм узяў верх над інтарэсамі вытворчасці. Гэта адбылося ва ўсіх на вачах. І камуністы, хто першы павінен быў сказаць сваё слова, прамаўчалі. За мінулы год бюро гаркома партыі было вымушана выключыць з радоў КПСС больш за 30 чалавек і 25 строга пакараць за ўяўную, паказную дзелавітасць, пралікі і памылкі ў партыйнай і грамадскай практыцы.

Каб пазбегнуць падобных непрыемных сітуацый, мы правялі ў горадзе сацыялагічнае даследаванне на тэму: «Што, на ваш погляд, перашкаджае перабудове?»

Ужо самі адказы на пытанні анкеты рабілі тых, хто адказваў, больш актыўнымі ўдзельнікамі перамен, як бы вызначалі праграму іх дзеянняў на будучыню. Было апытана 5 000 чалавек — кожны восьмы працуючы гараджанін. Прааналізаваныя і абагуленыя адказы далі кіраўнікам Маладзечна і работнікам гаркома партыі багаты матэрыял для разважанняў і канкрэтных вывадаў. Яны ясна паказалі, што перашкаджае нашаму руху наперад. 26 працэнтаў апытаных указалі на нежаданне адміністрацыі прыцягваць рабочыя калектывы да кіравання вытворчасцю, 38 працэнтаў — на фармальныя адносіны кіраўнікоў да канкрэтных прапаноў людзей, 44 працэнты — на неда[illegible] інфармаванасці аб дзей[illegible] адміністрацыі. Былы стэрэатып мыслення (вытворчасць дзеля вытворчасці) да сённяшняга дня перашкаджае некаторым кіраўнікам [illegible]бачыць галоўнае — дзею[illegible]асобу перабудовы — ка[illegible]рэтнага чалавека працы. Мы атрымалі добрыя арыенціры на будучыню. Даведаліся, якія партыйныя ініцыятывы знойдуць падтрымку народа.

У практыку работы нашага гаркома ўвайшоў рэгулярны кантроль за рэалізацыяй заўваг і прапаноў працоўных. Асобая ўвага звяртаецца на тое, каб паўсюдна забяспечваліся правільныя адносіны да крытыкі знізу, ствараліся ўмовы для адкрытага абмену думкамі. Сённяшняе жыццё камуніст павінен бачыць такім, якое яно ёсць: без недагаворак і прыхарошванняў.

Запісаў
Леанід ЛАХМАНЕНКА.

**Мы абавязаны помніць, што кіруючая роля нашай партыі не дадзена кімсьці зверху на вечныя часы, а заваявана некалькімі пакаленнямі камуністаў, іх беззапаветнай барацьбой за сацыялізм, за інтарэсы людзей працы. І цяпер — штодзённа і штогадзінна — настойлівай работай у імя народа, у імя роднай краіны мы павінны пацвярджаць і сцвярджаць свае права — быць у авангардзе рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства.**

**(З прамовы М. С. ГАРБАЧОВА на лютаўскім (1988 года) Пленуме ЦК КПСС).**

# МАЗЫ СТАНУЦЬ ЛЯГЧЭЙШЫМІ

Мінскія аўтазаводцы паставілі перад сабой мэту: рост выпуску машын не павінен «цягнуць» за сабой павелічэнне расходу пракату чорных металаў. Распрацавалі комплексную сістэму эканоміі. Як яна дзейнічае?

— Ва ўсіх вытворчасцях, цэхах,— расказвае намеснік начальніка ўпраўлення галоўнага тэхнолага аб'яднання «БелаўтаМАЗ» Л. Чартоў,— дзейнічаюць камісіі па эканоміі металу. Створана і агульназаводская камісія. Перыядычна праводзім атэстацыю дэталей і вузлоў на металаёмістасць. Ва ўпраўленні галоўнага канструктара праведзена ўсебаковае выпрабаванне машын. Задача ставілася канкрэтна: за кошт чаго можна яшчэ знізіць вагу аўтамабіля? І вось вынік: без страт для надзейнасці і якасці машын укаранёны аблегчаныя канструкцыі платформ, рысор, рамы і іншых важных вузлоў. На самазвалах МАЗ-5551 нормы расходу пракату чорных металаў зніжаны на 691 кілаграм.

З пачатку бягучай пяцігодкі завод перайшоў на выпуск аўтамабіляў сямейства МАЗ-6422 павышанай грузападымальнасці. Ва ўмовах жорсткіх лімітаў, устаноўленых на спажыванне металу, значна складаней яго эканоміць. Аўтазаводцы настойліва шукаюць новыя рэзервы, падыходзяць да гэтага пытання з самымі строгімі меркамі. Узяць хаця б адходы вытворчасці. Створана некалькі спецыяльных участкаў па іх сартаванню і перапрацоўцы.

Вельмі важна, як ставяцца да металу рабочыя каля станкоў. Упершыню ў галіне ў цэхах на Мінскім аўтазаводзе створаны комплексныя брыгады па эканоміі. У іх уваходзяць не толькі рабочыя, але і канструктары, інжынеры, тэхнолагі, начальнікі цэхаў, участкаў, забеспячэнцы. Кожная такая брыгада мае асабовы рахунак эканоміі.

З першага дня бягучай пяцігодкі МАЗ працуе без павелічэння спажывання пракату чорных металаў. Наадварот, за два гады расход яго зніжаны на 17 тысяч тон. Аўтазаводцы разумеюць: металаёмістасць іх машын яшчэ не адпавядае сучасным патрабаванням. Таму і працягваецца работа па эканоміі кожнага грама металу.

**М. ШЫМАНСКІ.**







**Некалькі гадоў назад ураджайнасць збожжавых у калгасе «Моладава» Іванаўскага раёна не перавышала 18 цэнтнераў, жывёлагадоўля таксама не давала прыбытку.**
**Вырвацца з застою дапамог пераход на гаспадарчы разлік. Усе падраздзяленні атрымалі поўную самастойнасць, ніхто не перашкаджае ім цяпер дробязнай апекай. Гэта прымусіла многіх працаўнікоў праявіць спрадвечную сялянскую кемлівасць. Вядома, нялёгка добра весці гаспадарку, унікаць у сутнасць шматпланавых эканамічных адносін, але ў апошнія гады ў «Моладаве» лічыць вучацца ўсе. Наладжана вучоба кадраў у школах эканамічных ведаў і прафесійнага майстэрства. Эфектыўна дзейнічае бюро эканамічнага аналізу, даследуюцца прычыны страт на ўсіх участках вытворчасці. Стала багацейшай аддача палёў і ферм — падняўся заработак.**
**НА ЗДЫМКАХ: член савета брыгады па вырошчванню бульбы Васіль МІРАНЮК; у гаспадарцы перайшлі на «халоднае» гадаванне цялят. Пабудавана каля паўтараста вось такіх зімніх домікаў. Гэта дазволіла павысіць захаванасць і прыбаўленні ў вазе маладняку; работу па душы знайшлі ў «Моладаве» механізатар Мікалай і бухгалтар Ганна КУРЫЛОВІЧЫ. Нядаўна маладая сям'я атрымала трохпакаёвую кватэру.**

**Фота Э. КАБЯКА і А. НІКАЛАЕВА.**

# ЛЮДЗЯМ АДКРЫЛІ ВОЧЫ

Пра галоўныя падзеі мінулага года — сустрэчу Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з Рональдам Рэйганам у Вашынгтоне і падпісанне Дагавора аб скарачэнні ядзерных ракет сярэдняй і меншай дальнасці ўжо многа пісалі і ў вас, і ў нас. Але і мне хочацца выказаць у сувязі з гэтым некаторыя думкі аб мінулым і сучасным.

Як вядома, пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў капіталістычным свеце адразу ж пачаліся нападкі на маладую Савецкую краіну. На паклёп не скупіліся. Адносіны да СССР былі настолькі варожымі, што некаторыя нашы «блізарукія» суайчыннікі проста баяліся прызнаць сябе рускімі ці беларусамі. Але вось над амерыканскім кантынентам праляцеў першы савецкі спадарожнік, а затым і касмічны карабель, кіруемы першым у свеце касманаўтам, сынам нашай Радзімы Юрыем Гагарыным. У той час я працаваў на рыбалоўным траўлеры. Мы знаходзіліся ў моры і сваімі вачамі бачылі, як прамільгнуў над намі яркай зорачкай карабель Гагарына. Наш капітан заўсёды быў настроены супраць Савецкага Саюза, але калі ўбачыў гэтую зорачку і даведаўся па радыё, што першымі паляцелі ў космас савецкія, сказаў: «Мой прадзед таксама быў рускі, значыць і ўва мне ёсць часцінка рускага».

Так і цяпер. Да прыезду савецкага кіраўніка ў ЗША, у капіталістычных краінах, як звычайна, у прэсе праводзілася антысавецкая кампанія. А калі ўбачылі Міхаіла Сяргеевіча і выслухалі яго, дык заахалі і заохалі: «Як ён цудоўна выглядае! Які ён інтэлігентны чалавек! Як разумна гаворыць!» Так, сапраўды, таварыш Гарбачоў умела, настойліва і цярпліва ажыццяўляе праграму Савецкага Саюза па ліквідацыі пагрозы ядзернай вайны, паслядоўна рэалізуе рашэнні XXVII з'езда КПСС аб публічнасці і перабудове.

Ужо многа год мне даводзіцца хадзіць па дамах, збіраць сродкі на газету «Вестник», на наш прагрэсіўны рабочы друк. Пры такіх візітах часта даводзіцца адказваць на розныя пытанні, у тым ліку і пра Савецкі Саюз. І быў час, сустракаў нямала людзей, настроеных адкрыта варожа. Цяпер усё інакш. Можна сказаць, што візіт Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова ў ЗША, яго выступленні там змянілі людскія погляды і адкрылі амерыканскаму і канадскаму народам вочы на праўду аб Савецкай краіне, яе знешняй і ўнутранай палітыцы.

**Уладзімір ГАЎРЫЦКІ.**

Канада.

# ТРОХІ АБ УСІМ

Даўно збіраўся напісаць вам аб нашым жыцці за акіянам, аб тым, як складвалася яно спачатку і якім стала зараз.

Я пакінуў Заходнюю Беларусь у 1928 годзе і паехаў у Канаду шукаць лепшай долі. Ды і за акіянам яна аказалася няласкавай. Асабліва ў пачатку 30-х гадоў. Бадзяўся па заходняй Канадзе з адной думкай: як выжыць. Гэта былі гады масавага беспрацоўя і галечы. Урад пабудаваў тады спецыяльныя лагеры для беспрацоўных, дзе яны за 5 долараў у месяц выконвалі грамадскія работы. Тыя лагеры нездарма называлі рабскімі.

Як крыўдна і балюча было бачыць у магазінах вялікую колькасць прадуктаў і адзення, недаступных для беспрацоўнага чалавека, бо не было грошай і работы. А ў дадатак да ўсяго эмігранты адчувалі не толькі дыскрымінацыю асобы, а і нацыянальны прыгнёт. Часта да нас ставіліся як да людзей другога гатунку. Каб мець магчымасць хоць крыху адстойваць свае правы, выхадцы з Расіі сталі арганізоўваць рабоча-фермерскія клубы імя М. Горкага. Гэтыя самадзейныя арганізацыі праводзілі культурна-асветніцкую работу, адчынялі школы, дзе людзі вучыліся чытаць. Потым стварылі сваю газету — «Канадский гудок». Як нашы клубы, так і гэта газета прытрымлівалася прагрэсіўных поглядаў. Такім чынам наша духоўнае жыццё пакрысе наладжвалася.

Мы з трывогай даведаліся, што нясе народам фашызм. Тры члены нашай арганізацыі з горада Ванкувера пайшлі добраахвотнікамі ў 1936 годзе ваяваць супраць фашызму ў Іспанію. Я ганаруся, што сярод гэтых барацьбітоў быў мой зямляк і сябар Уладзімір Гаўрыцкі.

З 1935 года эканамічнае становішча Канады стала паляпшацца. Аднак праблема беспрацоўя заставалася аж да другой сусветнай вайны. Перад вайной нашу арганізацыю і газету забаранілі. У 1941 годзе, восенню, пачалі стварацца «Камітэты дапамогі Радзіме». А праз год была анізавана Федэрацыя рускі надцаў і створана газета «Вестник» (яны існуюць да гэтай пары).

У гады вайны ў Канадзе з'явілася шмат работы. За гэты час краіна багацела. Добра жылі люд першыя пасляваенныя гады. Але цяжкасці пачалі даваць знаць аб сабе.

Апошнія тры-чатыры гады эканамічныя беды павярнулі Канаду назад. Нястрымна расце інфляцыя. Рабочых штогод звальняюць з работы. Маладыя людзі, якія скончылі школы, не могуць знайсці сабе занятак не толькі па прафесіі, а і ніякай работы. Згодна паведамленням газет, у краіне колькасць беспрацоўных складае каля 15 працэнтаў. У Ванкуверы, дзе я жыву, адкрыліся пункты, на якіх прымаюць прадукты ад насельніцтва, каб дапамагаць беспрацоўным. Урад скарачае бюджэт на ахову здароўя, асвету і іншыя сацыяльныя мэты. А крызіс усё абвастраецца, галопам скача інфляцыя. Кожны год уладкы абяцаюць, што становішча палепшыцца, а ўсё выходзіць наадварот.

Многія памятаюць развязаную Гітлерам вайну і яе цяжкія вынікі. Людзі не хочуць новай спусташальнай вайны. Наш абавязак абараніць мір. Калі будзе мір, то выйграем мы ўсе. У Канадзе вялікая маса людзей актыўна ўдзельнічае ў барацьбе за захаванне міру. Гэты рух набірае сілу.

Я адзін з тых ветэранаў, якія прыязджалі з Канады ў СССР, каб разам з савецкімі людзьмі адсвяткаваць 40-годдзе Перамогі над гітлераўскай Германіяй. Ад імя канадскіх ветэранаў мы ўсклалі вянкі да магіл загінуўшых герояў у Маскве, Ленінградзе, Мінску, Кіеве, Адэсе. У маёй памяці назаўсёды засталіся святочныя ўрачыстасці. З захапленнем глядзелі мы на маніфестацыю працоўных. У розных гарадах сустракаліся і гаварылі з такімі ж, як самі, ветэранамі, партызанамі. Усюды нас цёпла і душэўна прымалі.

Няхай жыве мір на зямлі!

**Іосіф ГІРЧЫЦ.**

Канада.

# РАДКІ З ПІСЕМ

З вялікай увагай сачыла за знаходжаннем у Вашынгтоне Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Яго сустрэчы з прэзідэнтам Рэйганам і з дзелавымі коламі ЗША поўнасцю транслíраваліся па тэлебачанні.

Упэўнена, што пасля гэтага візіту ўжо сёлета палепшацца адносіны паміж нашымі краінамі. Гарбачоў не толькі зацікавіў сваімі прапановамі прэзідэнта, бізнесменаў і інтэлігенцыю, але нават сумеў закрануць самыя халодныя сэрцы ў Вашынгтоне.

**Вера КЛЯЦКО.**

ЗША.

Я радуюся, што ініцыятывы Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова адабрае ўвесь свет. Але ёсць яшчэ колы і лідэры, рэакцыйна настроеныя супраць нашай Радзімы і сацыялістычнага ладу. Вядома, у барацьбітоў за мір ужо ёсць поспехі. Я маю на ўвазе ўзнікшую пасля сустрэчы ў Вашынгтоне магчымасць пачаць нарэшце пакрысе ліквідаваць ядзерныя арсеналы. Але для дасягнення канчатковай мэты нам яшчэ запатрабуецца нямала намаганняў і цярпення.

**Міхаіл МЕЛЬНІК.**

ФРГ.

Гістарычнай падзеяй стала падпісанне ў Вашынгтоне дагавора, які паклаў пачатак ліквідацыі ядзернай зброі. Тут мы перажывалі невыказнае пачуццё радасці і гордасці, што мы рускія людзі, хаця і жывём у Амерыцы. Таму што тут гадамі розная нечысць вяла цкаванне супраць Савецкага Саюза. Нават сам прэзідэнт нахабна выказаўся, што Савецкі Саюз — гэта «імперыя зла». А цяпер як быццам прайшла бура і змыла ўвесь бруд. У вашынгтонскім Белым доме развяваўся савецкі флаг, спяваліся «Падмаскоўныя вечары». Нам было лёгка ўсё разумець, таму што мы ведаем і рускую, і англійскую мовы. Гэты візіт змяніў Амерыку. Увесь амерыканскі друк, радыё, тэлебачанне ў адзін голас добра адгукаліся пра М. С. Гарбачова і яго жонку. Мы ўсе тры дні не маглі адарвацца ад тэлевізара. Міжволі каціліся слёзы ад радаснага хвалявання, і нам усё здаецца, што мы перажылі чароўны сон. Хочацца верыць, што ўсё гэта дасць добрыя вынікі і свет вызваліцца ад пагрозы загінуць у ядзернай вайне.

Нам удалося тры разы пабываць у Савецкім Саюзе, два разы наведалі прыгажун Мінск. Гэтыя паездкі ніколі не забудуцца. Хацелася б прыязджаць яшчэ і яшчэ, але фінансы і здароўе не дазваляюць.

**Яўгенія і Рыгор МЯЖОХАВЫ.**

ЗША.

Мы паслалі нашы сардэчныя віншаванні ў СССР Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу Гарбачову і ў ЗША прэзідэнту Рональду Рэйгану наконт гістарычнага падпісання новага дагавора, які прадугледжвае знішчэнне цэлага класа ядзерных узбраенняў. Увесь свет усхвалявала гэтая грандыёзная падзея, сустрэча ў Вашынгтоне, калі былі прыняты першыя практычныя крокі да рэальнага поўнага знішчэння ўсіх ядзерных арсеналаў.

Самаадданыя намаганні ўсіх міралюбівых людзей на нашай планеце далі свету яшчэ адзін шанс выжыць. Мы шлём прывітанне савецкаму народу, які пастаянна выказваў і выказвае сваё шчырае жаданне да міру і ўзаемаразумення, жаданне жыць на планеце без войнаў.

**Аддзел Асацыяцыі Канада—СССР горада Ванкувера.**

Канада.

Паважаныя паны, я пішу, каб падзякаваць вам за ваша пастаянства ў дастаўцы вашай газеты мне ўсе гэтыя гады. Дастаткова дзіўна, але вельмі прыемна бачыць свабоду думкі і выказванняў у вашых апошніх артыкулах на англійскай староні

Я ,ю майму Ісусу за тое, што ён паставіў гэтага новага чалавека на чале Савецкага Саюза. Прыемна бачыць, што ён і яго жонка вельмі адкрытыя ў сваіх выказваннях. Год ці два назад я паслаў яму пісьмо — алькі слоў з Бібліі пра бога аксама маліўся свайму Нябеснаму Айцу за гэтага чалавека (Гарбачова) і я бачу пэўныя перамены ў ім. Я не стараюся крытыкаваць СССР, я люблю народ СССР.

Яшчэ раз дзякую вам за артыкулы «Вучыцца дэмакратыі», «Прарыў» і «Мы паўторым нашу паездку». Працягвайце выказвацца адкрыта — гэта добра для вас.

**Рычард МООР.**

ЗША.

Дарагія таварышы!

Хачу ад імя ўсіх суайчыннікаў з нашага аддзела ССГБ павіншаваць з Днём Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. 70 год абараняе рубяжы нашай Радзімы непераможная Чырвоная Армія. Яна з'яўляецца і надзейным вартавым міру ва ўсім свеце. Менавіта яе магутнасць утрымлівае гарачыя галовы некаторых заходніх палітыкаў ад развязвання новай вайны. Калі гэта здарыцца, то загінуць не мільёны, а ўсё жывое на Зямлі. А гэта жудасна. Асабліва, калі падумаеш пра дзяцей і ўнукаў. Каб гэтым маленькім істотам ніколі не давялося пакутаваць, мучыцца і паміраць, кожны з нас павінен змагацца за мір. Спадзяёмся, што ў будучыні розум возьме верх і мы назаўсёды пераможам вялікае зло — пагрозу вайны. Гэтыя надзеі падмацоўвае палітыка нашай Радзімы і надзейнасць яе Узброеных Сіл.

Слава табе, наша вялікая Савецкая Армія!

**Тамара КРАСІЛЬНІКАВА.**

Бельгія.

Што я думаю аб перабудове? Несумненна, гэта вельмі патрэбная і карысная справа для Савецкай краіны, для яе народа. Патрэбна яна і для ўсяго чалавецтва. Ваша ж партыя прапануе і перабудову міжнародных адносін. Менавіта так я разумею «новае мысленне ў ядзерны век», да якога заклікае М. С. Гарбачоў. Тут, у ФРГ, многа гавораць і пішуць аб гэтым, але кожны разважае пасвойму. Большасць людзей падтрымлівае прапановы і ініцыятывы вашай краіны, але некаторым яны не па душы. Напрыклад, рабочы клас стаіць за ліквідацыю ядзернай зброі, а ваенныя прамыслоўцы — супраць. Ім жа лягчэй зрабіць адну ракету і атрымаць мільёны, чым выпускаць мануфактуру ці іншыя тавары, якія каштуюць танна.

**Міхаіл МАДОРНЫ.**

ФРГ.



# ТАКАЯ ВОЛЯ БОЛЬШАСЦІ

Апошнім часам у свеце адбываецца многа значных падзей, і мне хочацца падзяліцца сваёй думкай аб некаторых з іх.

Сустрэчы кіраўнікоў СССР і ЗША ў Вашынгтоне ўвесь свет чакаў з нецярпеннем і надзеяй. І яна ў асноўным спраўдзілася. Падпісанне першага дагавора аб скарачэнні ядзерных узбраенняў стала сапраўды гістарычнай падзеяй. Як усе мы радаваліся гэтаму! Хаця і не ліквідавана яшчэ пагроза ядзернай вайны, працэс раззбраення толькі пачынаецца, усё ж у людзей з'явілася больш упэўненасці, што ў рэшце рэшт удасца паконччыць з гэтай пагрозай назаўсёды. Пакуль цяжка сказаць, што будзе далей. Таму што ў ЗША ёсць сілы, якія актыўна выступаюць супраць ратыфікацыі дагавора. Але думаю, што працэс разрадкі ім не ўдасца сарваць. Такая воля пераважнай большасці.

Тут, у Канадзе, увесь народ вельмі зацікаўлены вашай перабудовай. Паводле слоў М. С. Гарбачова, перабудова павінна выправіць усе допушчаныя раней памылкі і прывесці краіну да значнага прагрэсу ва ўсіх галінах матэрыяльнай вытворчасці і жыцця. Ваша краіна перанесла многа гора. Пасля рэвалюцыі быў голад і разруха. Толькі пачалі станавіцца на ногі, а тут Вялікая Айчынная вайна. Зноў усё было разбурана і трэба было адбудоўваць. За гэтыя гады краіна зрабіла вялікі крок наперад ва ўсіх галінах, стала магутнай дзяржавай, якую паважае ўвесь свет. Улічваючы ўсе цяжкасці, якія давялося перажыць нашай Радзіме, не прыходзіцца здзіўляцца, што допускаліся памылкі як у эканоміцы, так і ў іншых галінах жыцця. Перш за ўсё культ асобы Сталіна. І партыя, і ўрад павінны надалей такога не допускаць.

Я асабіста, ды і большасць канадцаў спадзяёмся, што перабудова прывядзе вашу краіну да яшчэ больших дасягненняў і лепшага жыцця людзей. Яе падтрымлівае ўвесь савецкі народ. А гэта — залог поспеху.

**Уладзімір ХІЛЬЧУК.**

Канада.

# VALENCIA EN MINSK

*Los «Días de España en la URSS» transcurrieron en Moscú y otras ciudades con gran éxito. Publicamos un reportaje sobre este acontecimiento en Minsk.*

**ENCUENTRO INESPERADO**

En las salas del museo de la Gran Guerra Patria reina el silencio. Los visitantes pasan lentamente de una sala a otra. Las muestras emocionan, obligan a reflexionar. Durante la ocupación fascista en la tierra bielorrusa fueron fusilados, martirizados o quemados vivos la cuarta parte de la población. En el campo de concentración de la aldea Mali Trostenets los fascistas asesinaron a más de doscientos mil ciudadanos. Tras el tirante silencio, roto solo por la voz de la guía, están elocuentes cifras, fotografías, terribles testimonios de la guerra, documentos del dolor humano y la gran hazaña del pueblo que derrotó al fascismo.

De pronto, junto a una de las muestras, una exclamación fuerte: «¡Pero si éste es Felipe.» Un español de cabello plateado repite alegremente: «¡Miren, estos son Felipe Escribano, Jorge Fernández y este, Antonio Esmeralda. Estudiamos juntos en Járkov». En la imagen, fechada en 1943, se ve a jóvenes españoles de mirada inspirada vistiendo uniforme de oficiales del Ejército Rojo. Y a causa de que la fotografía, por lo visto, le hizo recordar tiempos de su lejana juventud, algo de mozalbete surgió en el rostro de José Lloret.

Nunca había estado en Bielorrusia — nos dice apresuradamente.— Veintisiete años residí en la Unión Soviética, visité muchas ciudades, sin embargo, es la primera vez que llego a Minsk. Y qué alegría me ha causado ver aquí, en el museo, una fotografía de mis amigos. También participé en la Gran Guerra Patria, ostento la orden de la Guerra Patria de II grado. La Unión Soviética se convirtió para mí en la segunda patria. Mis compatriotas, que ven en la imagen, lucharon en Bielorrusia, yo, en el frente del Cáucaso. Recuerdo que tenía que haber partido con ellos a destacamentos de guerrilleros, pero me retuvo la Internacional Comunista por varios días y así se separaron nuestros caminos de la guerra...

Los guerrilleros sacaron de un combate al español Juan Iglesias gravemente herido. Pero no lograron salvar la vida de su comandante. Falleció en setiembre de 1942 aquí, en la tierra bielorrusa que defendió luchando contra el fascismo con el mismo fervor con que defendió su Patria. Y hoy, 45 años después, ante la fotografía de los héroes españoles en el museo de Minsk se encontraban compatriotas emocionados por la analogía histórica de los destinos de los pueblos ruso y español.

**NOS ACERCO LA PROPIA HISTORIA**

Junto a José Lloret se encuentra su esposa Antonia. Se casaron en Tbilisi al poco tiempo de terminar la guerra. Allí mismo celebraron el cuarenta aniversario de la boda. Forman parte del grupo de turistas invitados a Bielorrusia a los «Días de España en la URSS». A Antonia le impresionó mucho todo el viaje, los cordiales recibimientos que les hicieron en tierra bielorrusa. Al igual que su esposo, es la primera vez que visita esta república.

Manuel Prieto, subsecretario de la Presidencia de la Generalidad Valenciana, visitó Minsk hace algunos años.

— La ciudad está más elegante y bella, se elevó el nivel de vida, eso se ve a simple vista. Allí donde hace algunos años no había nada hoy encontramos barrios modernos. En España últimamente ha despertado gran interés, fundamentalmente, entre las fuerzas de izquierda, por las transformaciones que se realizan en el país de los Soviets. Las palabras perestroika y glasnost se entienden en todo el mundo. Aquí, en Minsk, me pareció sentir que la gente tiene entusiasmo porque quiere organizar mejor la vida.

Este museo provoca un gran impacto.. Despuée de visitarlo se comprenden los enormes sufrimientos del pueblo soviético durante los años de guerra contra el fascismo. Y para la generación presente este recuerdo es sagrado. En España hay muchos que no conocen las pérdidas reales del pueblo soviético en la Gran Guerra Patria, la magnitud de su hazaña. Estoy convencido de que las muestras del museo tienen que influir enormemente en la gente en el plano de la propaganda antibélica.

— En este museo me convencí una vez más de que la historia acerca a nuestros pueblos, los predispone a la amistad y al entendimiento — tercia José Luis Santos, presidente de la Asociación EspañaURSS en Valencia —. Primero los soviéticos nos ayudaron en nuestra guerra civil derramando su sangre en la tierra de España. Luego, españoles lucharon contra el fascismo en las filas del Ejército Rojo.




**VALENCIA SOLIDARIA Y HERMOSA**

Ciento diez españoles enviados de Valencia fueron huéspedes de la República Socialista Soviética de Bielorrusia. Con el fin de que los bielorrusos conocieran mejor su Patria los valencianos trajeron a Minsk una exposición de arte.

¿Qué expusieron? Objetos de la artesanía popular valenciana que encantan por su sobria elegancia y colorido nacional. Ayudan estas obras a comprender con mayor profundidad el alma del pueblo español, su sencillez y talento.

Los valencianos seleccionaron también para la exposición en Minsk, obras de Conrado Meseguer Muñoz. Hoy se considera a Conrado uno de los mejores pintores del nuevo realismo español y su exposición, una explendida manifestación de formas y flores. Sus cuadros conjugan lo más difícil: el calor y la poética del impresionismo con la imagen inequívoca de los objetos de la vida real. Y, sin duda, los vecinos de Minsk verán y acogerán en sus corazones la Valencia de Conrado Meseguer Muñoz.

Pero Valencia aparece ante nosotros no sólo lírica y bella. Elevados sentimientos cívicos son propios de los valencianos. Por esto se expone en Minsk también una emocionante muestra de la colección del Museo de bellas artes Salvador Allende. Hablar de la historia de este Museo es hablar de la tragedia que vive el pueblo chileno desde el sangriento golpe de Estado del 11 de setiembre de 1973. Fundado en Santiago de Chile inmediatamente a la victoria de la Unidad popular en las elecciones como museo internacional de solidaridad con el pueblo de Chile, dejó de existir a raíz de la subida de Pinochet al poder. Al llamamiento de Casa de las Américas, de Cuba, de volver a crear el Museo internacional de la solidaridad respondieron muchos pintores de fama mundial. Hoy el Museo Salvador Allende es ambulante. A partir de su primera instalación en La Habana hasta su última residencia en una ciudad valenciana va completándose con obras de arte de distintos países. Su colección se amplió notablemente gracias a pintores valencianos contemporáneos. Algún día, en un futuro no lejano, la colección de lienzos del mundo entero reunida en expresión de solidaridad internacional volverá a Chile. Los pueblos de España y de la Unión Soviética lo esperan y están seguros de que así será. «Queremos expresar nuestro más ardiente deseo de que a través del arte y de los lazos de solidaridad con los pueblos que luchan por la libertad se fortalezca el entendimiento mutuo y las relaciones de amistad entre Bielorrusia y la Región autónoma de Valencia» — decían los organizadores de la exposición.

**«VI AQUELLO, DE LO CUAL QUIERO HABLAR»**

Pilar Roig, rectora del instituto politécnico de Valencia, integra la delegación valenciana en la que son numerosas las mujeres. Es la primera ocasión en que se encuentra en Bielorrusia y se interesa por muchas cosas, en primer lugar por todo lo que tiene que ver con la posición de la mujer en la sociedad y con el sistema de enseñanza superior en la URSS.

— Me siento feliz de haber venido —dice.—. Visitamos el Instituto politécnico de Minsk, donde surgieron grandes perspectivas y contactos con los colegas soviéticos, de organizar el intercambio de experiencia y la cooperación.

Tuvimos entrevistas con altos funcionarios de la república, entre ellos hay mujeres. Me impresionaron sus logros en los campos de la cultura, la protección de la maternidad y la infancia. Hemos visto magníficos jardines de infancia, palacios y campamentos de pioneros accesibles para todos los niños. En una palabra, las mujeres soviéticas tienen suerte. Yo tengo cuatro hijos y comprendo lo importante que es cuando el Estado se preocupa también de los niños, crea condiciones para una maternidad feliz. Mi hijo mayor tiene 12 años y quisiera que pudiera ver todo lo que nosotros hemos visto aquí. Hemos filmado vídeos del viaje.

Claro está, en una visita tan breve es imposible abarcar todo. Pero hemos visto aquello, sobre lo que uno desea hablar, surgió el deseo de ampliar los conocimientos. Y al despedirnos de Bielorrusia sé que volveré sin falta. Espero que podamos firmar un acuerdo sobre cooperación con el Instituto politécnico.

...Por la tarde, en vísperas del regreso a su país, la delegación española asistió a un concierto de un conjunto popular de canciones y danzas de Bielorrusia. Daba la impresión que los artistas jamás habían actuado con tanta vivacidad, temperamento y entusiasmo y que en la sala jamás hubo ovaciones tan ensordecedoras. La generosa y hospitalaria Bielorrusia se abría ante los huéspedes con su arte popular. Y, seguramente, muchos pensaron esa tarde en lo mucho que hay de común en nuestros pueblos.

E. BULGAKOVA



*EN LAS FOTOS: el conjunto Alimar actuó en el Palacio de Cultura de la ciudad de Molodechno; la delegación valenciana visita Jatiñ.*

**EDITADO POR ENCICLOPEDISTAS BIELORRUSOS**

52 volúmenes de enciclopedias y prontuarios fundamentales de carácter universal, regional y sectorial; 10 tomos de diccionarios del idioma bielorruso; más de 20 pequeñas enciclopedias de divulgación sobre diferentes ramas; más de 20 obras clásicas de la literatura universal y soviética: este es el resumen de 20 años de actividad de la Editorial «Enciclopedia Soviética Bielorrusa».

Entre las ediciones más interesantes que se preparan ahora figuran las enciclopedias: «La etnografía de Bielorrusia», «Francisco Skorina y su época» (Skorina fue uno de los primeros impresores de libros e ilustrador de la época medieval), «Familia joven», así como volúmenes sobre Brest, Vitebsk y otras ciudades.

La tirada anual total de los libros editados supera un millón de ejemplares.

La Editorial «Enciclopedia Soviética Bielorrusa» publicó un libro extraordinario, dedicado a la vida y obra de Kupala, uno de los fundadores de la literatura bielorrusa moderna. Contiene muchísimos materiales y documentos casi desconocidos por el lector, y detallada información sobre las personas próximas al gran escritor. La integran 3.095 artículos.

Esta es la tercera enciclopedia literaria personal que se edita en la URSS. Las dos anteriores estuvieron dedicadas a Mijaíl Lérmontov y a Tarás Shevchenko.

**UNIÓN DE HOMBRES DE TEATRO DE BIELORRUSIA**

Desentrañar los conflictos principales de la época y reflejarlos en obras escénicas verídicas y altamente artísticas: fue la definición que dieron los delegados al Congreso de trabajadores del teatro de Bielorrusia sobre el objetivo de su participación en el proceso de reorganización radical que se produce en todas las esferas de la sociedad soviética. El Congreso resolvió transformar la Asociación de Teatro de Bielorrusia en Unión de Hombres de Teatro.

La nueva Unión cuenta con 1.450 miembros y se ha trazado un amplio programa de actividades teatrales orientado a elevar el papel de los artistas en la misión de inculcar a los soviéticos altas cualidades humanas y cívicas.

Nikolái Yerémenko, Artista del Pueblo de Bielorrusia y actor del Teatro Académico «Yanka Kupala», fue elegido Presidente del Presídium de la Junta Directiva de la Unión.

**CRECE EL NÚMERO DE UROS**

Belovézhskaya Puscha es un rinconcito típico de la magnífica naturaleza bielorrusa, que conserva la flora y la fauna de hace muchos siglos. Objeto de un orgullo muy especial de este parque nacional son los rebaños de uros, contemporáneos de los mamuts. Con los 30 que aparecieron este año, el total de esos gigantes del bosque se eleva ahora a 226. El renacimiento del criadero de uros, destruido por los hitlerianos en la Segunda Guerra Mundial, comenzó hace cuarenta años. A partir de entonces, más de 200 de esos rarísimos animales han sido enviados a vedados de la región de Moscú, a Ucrania, al Cáucaso y a Checoslovaquia.

Redactor de la «Página en español»: D. OKULIK




## УРЫЎКІ З ГІСТАРЫЧНАЙ АПОВЕСЦІ

**Мар'ян ВІЖ**

**1988 год распачаў «дзесяцігоддзе культуры», абвешчанае ЮНЕСКО пад дэвізам «Асобе неабходна культура». Для нас, беларусаў, сёлетні год стаў годам Кастуся Каліноўскага: мы шырока адзначылі 150-годдзе з дня нараджэння выдатнага сына Беларусі, рэвалюцыянера-дэмакрата, нашаг[illegible] чацыянальнага героя, і 125-годдзе з дня пачатку па[illegible]ння, кіраўні[illegible] якога ён быў. Рыхтуемся мы адзначыць яшчэ ад[illegible]обілей: 70-год[illegible]е абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Дзве гэтыя падзеі як быццам нічым не звязаны паміж сабой. Але гэта толькі на першы погляд. На парозе XXI стагоддзя, калі так хочацца зазірнуць у будучыню, мы з пільнай увагай углядаемся ў падзеі далёкай і блізкай сваёй гісторыі, аддаём даніну павагі тым, хто змагаўся і загін[illegible] імя лепшай будучыні народа.**

**«Го[illegible] Радзімы» ўжо друкаваў матэрыялы, прысвечань[illegible]обілею К. Каліноўскага, у якіх аўтары імкнуцца зразумець, асэнсава[illegible]тую далёкую эпоху, водгулле падзей якой дайшло да нашага часу і якія даюць нам падставы ганарыцца сваім мінулым. Мар'ян Віж (Мар'ян Зайцаў) — адзін з такіх аўтараў. Па адукацыі ён гісторык, працуе ў Мінскім мед-інстытуце. Пачынаючы з 1974 года ў рэспубліканскай прэсе з'яўляюцца яго цікавыя навуковыя і навукова-папулярныя літаратуразнаўчыя артыкулы, публікацыі па краязнаўству. Гістарычная аповесць «Лабірынт» падрыхтавана да друку рэдакцыяй часопіса «Маладосць». Мы прапануем увазе чытачоў скарочаны варыянт першага раздзела. Аснову сюжэта аповесці склалі сапраўдныя падзеі і факты. Твор прысвечаны гераічным часам паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.**

*Светлай памяці першых беларускіх рэвалюцыянераў, паплечнікаў Кастуся Каліноўскага, вядомых і невядомых, іх незабыўнаму, гераічнаму часу прысвячаецца.*

# І. КАРЧМА ПРЫ БАБРУЙСКІМ ТРАКЦЕ

Адвылі завеі, сціхлі мяцеліцы, і неяк адразу прасторы насыціліся абуджальнай вільгаццю. Яна шырэла, мацнела пад сонцам, вызваляючы ўсё з доўгага сцюдзёнага палону. Жвавая вада і мяккадрыготная хлюпота часам сціскаліся яшчэ лёдам, але гнілы марозік уладарыў толькі да празрыстай раніцы, да першых, ледзь чутных, асцярожна-нясмелых званочкаў капяжу. Разам з плаксівымі, на вачах аселымі, шараватымі снягамі няспешна раставаў і люты — апошні зімовы месяц.

Самы добры конь морыцца праз які дзесятак вёрст, бо па голых узвышках шляхоў ямчэй каціць на колах, а для санлівых лагчынак ды бясконцых, па-зімоваму дрымотных нізін яшчэ падавай сані. Мала хто ездзіць далёка ў такую пару. Таму кардон супраць паўстанцаў, выстаўлены пры старым Бабруйскім тракце за ваколіцай павятовага горада Ігумена, мала-памалу заспакоіўся, закалыхаўся бязлюддзем. Службу ён нёс абы з рук. Трое салдат на чале з зухаватым вусачом-унтэрам патопчуцца трохі ды паплятуцца сабе адзін за адным да цяпла ад паласатай вартавой будкі з бервяном-шлагбаумам, засцерагальна завіслым над ціхім, пустым і сумным кожны дзень бальшаком.

Салдаты, як і іх новы камандзір роты паручнік Аўдзееў, добра ведалі: ва ўсёй Мінскай губерні бунтаўшчыкі-інсургенты супрацьурадавых акцый нідзе пакуль, дзякуй богу, не распачыналі. Адным словам, пагрозлівых прыкмет блізкай навальніцы не адчувалася. Сярод салдат мацнела ўпэўненасць, што ў павятовы горад, дзе стаіць каля сотні з батальёна ўнутранай гарнізоннай варты, ніводны мяцежнік сунуцца не адважыцца, не рызыкне. Навошта ж дарэмна мерзнуць на пастах?

Спраўна, як мае быць, працягваў правіць абавязкі толькі асноўны каравул, *што стаяў пры ўездзе ў Ігумен з боку* губернскага Мінска. Але і гэта мера ажыццяўлялася не так для затрымання падазроных асоб, як для таго, каб папярэдзіць начальства, што прыехаў жандарскі афіцэр, фельд'егер з эстафетаю, каб кантраляваць расклад руху паштовых экіпажаў праз павет.

Ніхто не заўважыў, калі шызым надвячоркам з Чорнага гаю выехаў лёгкі, нічым непрыкметны вазок. Паблукаўшы крыху на ўскрайках вёскі Калодзежы, ён трапіў на вузенькую, раскіслую, ледзь бачную крывую сцежку, што вяла на Ігумен. Праз горад, абмінаючы галоўныя, асветленыя некалькімі ліхтарамі вуліцы, вазок адразу накіраваўся да Бабруйскай карчмы, якая прытулілася на пустэчы ля самай развілкі крыжавых дарог.

Трохі падмарозіла, снег весела парыпваў пад палазамі. Вазок без замінкі праскочыў у вароты, заўсёды гасцінна расчыненыя да позняй ночы, і апынуўся на велізарным, выцягнутым уздоўж тракту і абгароджаным шчытным яловым тынам, падворку. Конік, відаць, сустрэўся з добра знаёмымі мясцінамі. Ён сам паціху ўпэўнена вёз куды трэба, пакуль не спыніўся перад счарнелымі дубовымі брусамі высокіх прыступак галоўнага ганка.

На вазку горбілася адзінокая, захутаная ў просты доўгі кажух постаць. Узняты каўнер з белай аўчыны надзейна хаваў твар госця. Каб не шапка з бліскучым казырком, падобная да тых, у якіх францяць чыноўнікі і маладыя канцыляры́сты, можна было б палічыць, што прыехаў мужык-заможнік. Але, трохі памеркаваўшы, і гэта не падыходзіла, бо ў блізкім наваколлі кажухі гэткіх фасонаў не носяць.

Якраз такія вось думкі ўзніклі ў карчомнага чалавека Сямёна Крупенькі. Ён, прыпаўшы да шыбы, пытальна ўглядаўся цераз маленечкае, бруднае акенца ў госця, што сядзеў у вазку. Сямён—гэта бязладны мужык, які даўно жыў бабылём, махнуўшы рукою на сваю галодную сям'ю і занядбаную гаспадарку. Ён пяты год цягне лямку пры карчме пана Булгака, атрымліваючы тут харч і гарэлку. Вядома, Сямёну раз-пораз перападала сёе-тое яшчэ, але прыварак заўжды прапіваўся. За пабіты воспаю, пасечаны зморшчынамі чырвоны твар з калматымі вогненна-рудымі валасамі да Крупенькі прыліпла мянушка «Рабы». Сам Сямён на ўласнае імя не памятае, калі забыўся, і ціха звыкся адгукацца на мянушку...

Сямён не адразу вызначыў, што за птах на двары і як з ім належыць трымацца, па якому разраду прыняць. А той прыўзняўся на вазку, азірнуўся. Пасля з ахвотай скінуў цяжкі кажух, зняў шапку і застаўся ў шэрай, як лунь, даматканай, адмысловай работы світцы. Зараз ужо не выклікала сумненняў: найхутчэй ля карчмы шляхцюк, што пасля сканчэння адукацыі, не здабыўшы чыноўніцкага месца, шукае прыватнай службы дзе-небудзь у маёнтку. Колькі такіх бяздольных вандроўнікаў блукалі і блукаюць па маляўнічых гасцінцах заходніх губерняў з надзеяй знайсці хоць які заробак, каб стаць на ногі і самастойна ўсталявацца на нялёгкім свеце!

Тым часам прыезджы выцер хусцінкаю лоб, прыгладзіў светлую, як салома, непаслухмяную чупрыну дарагім грэбенем, няйначай — падарункам пакінутай дзесьці нявесты. Лейцаў з рук не выпускаў, нібыта нешта яго насцярожвала, павярнуў каня і вазок да выхаду, нібы спецыяльна для таго, каб зручней у любы момант падацца назад да брамы.

Госць дастаў з сена бліскучы медны званочак — абавязковую рэч у кожным няблізкім падарожжы. Сціснуўшы яго ў далоні, узняў руку і некалькі разоў трасануў. Як бы ў адказ, голасна і дружна забрахалі сабакі. Яны быццам саромеліся таго, што бестурботна праспалі і з недаравальным для іх годнасці спазненнем абвясцілі гаспадарам: наўкола цёмна, а тут чужыя — конь і чалавек.

Са звычайнымі словамі: «Проша! Бардзо рад пану. Што загадаць пажадаеце?»— на ганак, завязваючы на хаду матузы, якімі падпяразвалася доўгая кашуля, выскачыў Сямён Рабы. Яго хітраватае аблічча, уся сутулая постаць ужо былі гатовы да лагоднасці і паслужлівасці, якіх вымагала гэта, зусім не знатная маладая асоба.

Госць, па-ранейшаму напружана трымаючы лейцы, яшчэ раз азірнуўся, стомленым, моцна прастуджаным голасам, што перарываўся надрыўным грудным кашлем, ціха запытаў:

— Скажы, братка, чыя гэта карчма і дзе гаспадар? Ці можна... заначаваць?

— Карчма, паночку, гэта па-вашаму. Мы завём яе Бабруйскаю рандай, належыць яна вяльможным панам нашым Булгакам. Здавён жа ранду трымае рандатар Гіцка Мацынскі, які зараз,— служка паказаў кулаком некуды ў цёмную далячынь,— шабасуе, моліцца свайму богу, бо субота ж заўтра. Прыцягнецца сюды аж пад раніцу. За ім дзеўкі і бабы-наймітkі, што скацінку Гіцкаву правяць, з'явяцца. А тых каровак у нас (мо чулі?) аж з сотню сёлета. Надумаў Гіцка масла ў Вільню вазіць, ды такое, каб было танней і смачней за дзісненскае. Але, хто ведае, як яно выйдзе. На ўсё воля боская... Не турбуйцеся, паночку, калі б да нас нават з вясёлай кампаніяй закацілі, усіх бы пачаставалі і прытулілі. Ужо трэці тыдзень анікога ў нас. Пустая зараз ранда, дальбог пустая, як зімовы азярод.

— Добра, — заспакоена адказаў госць, узыходзячы на ганак.

— Якія будуць распараджэнні?— з набытай за гады службы дагодлівасцю пытаўся Рабы.

— Бачыш, як конь запарыўся... сённяшняй дарогаю. Выслабані бедалагу, праспражы. У стадолу адразу не вядзі, няхай... гадзінкі са дзве павольна астудзіцца на паветры. Прывяжы хоць бы тут, пад вокнамі. Ды аўса насып поўны жолаб. Раніцой сам яго напаю, бо нам ехаць і ехаць. Для мяне, братка, падрыхтуй... асобны пакойчык і хоць якую вячэру.

— Слухаю пана,— з гатоўнасцю адказаў Рабы і зараз жа ўдакладніў:— Ці мэеце багаж?

Госць спахмурнеў, ізноў зрабіўся насцярожаным і сур'ёзным. Падумаў крыху, аглядаючы падворак, і, спрабуючы не паказаць хвалявання, кашляючы, рашуча распарадзіўся:

— Ёсць багаж, ёсць. Тры... абвязаныя вяроўкамі скрыні — там вельмі каштоўныя для мяне рэчы — трэба аднесці ў... надзейнае месца і замкнуць. Ключы ад дзвярэй адразу... прынясеш мне ў рукі. Абцягнуты ж палатном пакунак — хоць і груваcткі ён, як куфар, але лёгкі — прашу... паставіць у мой пакой.

— Дазволіце пачынаць?— дапытліва, нават падазрона ўпіўшыся вачыма ў твар госця, быццам на тое, каб яго дэталёва вывучыць і запамятаць, папрасіў дазволу Рабы.

— Пачынай. І не марудзь, калі ласка,— зморaным голасам дадаў дзяцюк і працягнуў служцы срэбраную манету:— Вось табе, прымі за клопат.

Запалыя шчокі Рабога радасна паружавелі. Ад узбуджанасці ён забыўся нават падзякаваць.

Рабы моўчкі разграб сена ў вазку, ухапіўся дзвюма рукамі за скрыню, мерачыся адным махам падхапіць груз. Але з першай спробы нічога не атрымалася. Скрыня як стаяла, так і засталася на месцы. Ён разявіў рот і здзіўлена ўскінуў вочы на госця. Той назіраў за ім з ганка: растлумачыў падкрэслена спакойна:

— Там кнігі, братка. Шмат старых, добрых кніжак. А папера, яна як тваё жалеза. Я б дапамог, ды грудзі... жар пячэ. Перхаю, бачыш, без утрымкі. Толькі б легчы скарэй.

Рабы некалькі хвілін нешта незадаволена мармытаў сабе пад нос, бурчэў, пакуль патроху не прыладзіўся да работы. Тарабанячы на плячах першую, затым другую скрыню, думаў: «Колькі перабачыў на вяку розных паноў ды падпанкаў — не разумею іх, не разумею ані. І ў гэтага, пэўна, вецер у кішэнях свішча, а ён яшчэ кніжкі нейкія за сабою возіць. Навошта яны яму? Вось хоць бы, напрыклад, у бацюшкі нашага, айца Кірылы, кніжак гэтых самых процьма. Дык ён жа па іх боскія ка́занні пастве чытае, святы ў храме і ўрачыстыя фэсты вакол царквы Спасавай правіць. А гэтаму навошта? Ат, хто іх, паноў, разбярэ!»

Апошняя скрыня здалася Рабому асабліва цяжкай. Ён аж хістаўся пад непамерным цяжарам, ногі не слухалі, шумела ў галаве. Ён пашкадаваў нават, што пашчасціла ўчора на дурніцу насцёбацца ад пуза. «Не, болей не вытрымаю»,— вырашыў Рабы і перад расчыненымі дзвярыма свірна ў знямозе рэзка апусціў скрыню на лёд.

І тут ён выразна пачуў, як у сярэдзіне нешта прыглушана бразнула. Памылкі быць не магло: чалавек хітруе, маніць, зусім не кніжкі там. Што ж тады? Раптам Рабога, як варам, праняла гарачая здагадка: «Зброя! Безумоўна, там зброя. А госць гэты — горш за злодзея. Несумненна, бунтаўшчык з тых паноў, што, як казалі, швэндаюцца па лясах, каб потым сысціся, злучыцца і ўзняцца супраць самога цара нашага, які міласэрна скасаваў ненавісны прыгон і даў мужыкам ад іх, ад злыдняў-паноў, волю!»

І Рабы не вагаўся, ужо цвёрда ведаў, што і як рабіць далей. Ён толькі спуджана скасавурыўся ў бок ганка. Але малады госць, здаецца, нічога небяспечнага пакуль не адчуваў, выцягнуў з кішэні гадзіннік-цыбуліну, наблізіў яго да няяркага ліхтара пры ўваходзе:

— Ой, як позна ўжо! Давай, чалавеча, скарэй вячэру і спаць.

— Зараз, зараз, мой даражэнькі паночак,— адазваўся з цемры, бразгаючы запорамі, Рабы і хуценька падбег да госця:— Вось, зрабіце ласку, трымайце адзіны наш ключ ад замкнёнага на завалу свірна. Усё, як загадана. Проша пана крышку пачакаць, я толькі пакунак з воза ды кажушок панаў з шапкаю наверх, у пакой ваш, значыць, аднясу.

Хоць апошні груз, у параўнанні з папярэднімі, Рабому здаўся зусім бязважкім, ён не спяшаўся развітвацца з ношай. «Што ж тамака можа быць? Чаму гэтак лёгка несці? Найхутчэй — засыпка панскага пітва — гарбаты, каб злыдні, значыць, у лясах не памерзлі. Шануюць сябе, халера на іх,— строіў здагадкі служка, мацаючы пакунак дрыжачымі пальцамі. Прыгадалася, як летась на Міколу паліцыя з акцызнікамі арыштавала тут нейкага купчыка, у якога меўся якраз такі вось пакунак. Тым разам схапілі яго, паўтараючы: «Кантрабандны чай, кантрабандны чай!» Ён не сумняваўся: нядаўні сон — пахкі белы каравай — зараз даўся, як кажуць, у руку. А нечаканай і неспадзяванай, проста казачна неверагоднай удачы ён, Сямён Рабы, не выпусціць. Ой, не!

...Госць пры неназойлівым і ласкавым святле дзвюх свечак разглядаў сціплае ўбранне так званай «чыстай», ці лепшай, паловы карчмы, дзе прымалі прыватных асоб з непадатных саслоўяў, а таксама афіцэраў і чыноўнікаў. Хоць памяшканне не назавеш вялікім, але ўсё тут было досыць акуратным і пасля доўгай малапрыемнай дарогі магло здацца ўтульным. Тры столікі ўпрыгожвалі накрухмаленыя льняныя сурвэткі з выявай пчалы — гербам горада Ігумена. На іх — простыя сталовыя прыборы, фасоністыя зеленаватыя келіхі, розных памераў чаркі. А збоку да зашмальцаванай мяккай сафы на некалі дарагім ампірным арэхавым бюро госць сярод кіпы розных пажоўклых папер прыкмеціў свежы нумар «Минских губернских ведомостей» і разгарнуў газету.

У вочы кінуўся «Зварот да сельскіх абывацеляў...» мінскага губернатара. «Яго правасхадзіцельства», не шкадуючы слоў і фарбаў, гладка пераконваў мужыкоў не паддавацца хлуслівай агітацыі мяцежнікаў, чакаць ад Аляксандра II— «боскага памазаніка і вызваліцеля»— новых літасцей. Тэкст канчаўся заклікам: «Усіх тых,.. якія будуць вучыць вас бунту, затрымліваць і дастаўляць мясцовым уладам, станавым, спраўнікам, ваенным начальнікам!»

«Дрэнь жа вашыя справы, пан губернатар, калі царскія ўлады, здаецца, упершыню ў гісторыі, мусяць праз сваё казённае друкаванае слова размаўляць з нашым простым народам»,— падумаў госць. Ён не сумняваўся: зварот губернатара ўжо неаднойчы гучаў і будзе гучаць ва ўсіх незлічоных цэрквах губерні з адпаведнымі папоўскімі тлумачэннямі і каментарыямі.

Ад чытання госця адарваў прапіты голас Рабога:

— Паночку, Гіцка-рандатар вернецца аж заўтра, таму самі запішыце ў чорнай прашнураванай падарожнай кнізе нашай ранды што трэба, а пачпарт яму ўжо раніцою пакажаце.

**(Працяг будзе).**

РЭСТАЎРЫРУЕЦЦА АНДРОНІКАЎ МАНАСТЫР

# ВЕЧНАЯ СУВЯЗЬ ЧАСОЎ

НЕ САМЫМ славутым і багатым лічыўся маскоўскі Андронікаў манастыр сярод манастыроў Расіі. Але лёсам наканавана было яму аказацца месцам пахавання вялікага жывапісца Старажытнай Русі Андрэя Рублёва, і гэтым ён вылучыўся з дзесяткаў і соцень сабе падобных.

Да нядаўняга часу тэрыторыя Андронікава манастыра, дзе сёння Музей старажытнарускага мастацтва імя Рублёва, была астраўком цішыні. Цяпер сюды ўварвалася шматгалоссе сучаснага жыцця.

Праходзіш па цяністаму скверу, ступаеш на зямлю манастыра і ў першы момант не разумееш, куды трапіў: у музей ці на будоўлю? Пра тое, што — у музей, сведчыць група экскурсантаў. Пра тое, што — на будоўлю, гавораць рыштаванні.

Ідзе рэстаўрацыя. Ужо зззяе пазалотай крыж на макаўцы Спаскага сабора. Пабелены сцены. Аднаўлена металічнае пакрыццё купалаў.

У маі 1987 года прынята спецыяльнае рашэнне аб пераўтварэнні музея ў Цэнтральны музей старажытнарускай культуры і мастацтва. Наўрад ці трэба каменціраваць, як многа значаць новыя два словы ў назве музея. Яны самі гавораць за сябе, паколькі словы гэтыя вельмі ёмістыя: цэнтральны і культуры.

— Нашы задачы? — перапытвае дырэктар музея С. Вашлаева.— Мы будзем вывучаць старажытнарускую культуру, каардынаваць даследаванні ў гэтай галіне, фарміраваць свае фонды (сёння гэта больш за тры тысячы ікон і карцін), шырока прапагандаваць дасягненні духоўнай і матэрыяльнай культуры нашага народа. Новы статус музея — гэта і новы ўзровень адказнасці...

Можна сказаць, што Цэнтральны музей старажытнарускай культуры і мастацтва імя Андрэя Рублёва пачаў трэцяе сваё жыццё. Першае — вядзе адлік ад снежня 1947 года, калі было прынята рашэнне аб яго стварэнні, і канчаецца ў пачатку сямідзесятых гадоў. Сямідзесятыя гады і сярэдзіна васьмідзесятых — другое жыццё, яно вызначаецца зацішшам. У тыя гады музей жыў на дывідэндах ад гучнай славы першага свайго жыцця.

А час ляцеў, мінаючы зарослы травой Андронікаў манастыр. І толькі вясной 1987 года музей набыў новае дыханне, пачалося яго трэцяе жыццё. Яго, зразумела, не было б, калі б не было першага жыцця — перыяду станаўлення, назапашвання па крупінках фондаў: стваралі ўсё на пустым месцы, у цяжкія пасляваенныя гады.

Д. Арсенішвілі і Н. Дзёміна — вось два падзвіжнікі, якія стаялі ля вытокаў музея. Энергія Арсенішвілі і яго вялікі арганізатарскі талент гарманічна дапаўняліся глыбокімі ведамі Дзёмінай у старажытнарускім мастацтве.

Усе фонды, якія музей мае ў нашы дні (сярод іх унікум — ікона «Спас» X стагоддзя), сабраны ў пяцідзесятыя і шасцідзесятыя гады — пры Арсенішвілі і Дзёмінай. Першая экспазіцыя была арганізавана ў 1954 годзе. Ездзілі і ў блізкае Падмаскоўе, і на Поўнач. Тыя даўнія экспедыцыі ў немалой ступені садзейнічалі абуджэнню ў грамадстве цікавасці да старажытнарускага мастацтва. На месцах часта даводзілася сутыкацца з прадузятасцю — у іконах бачылі толькі прадметы культу, а не творы мастацтва. Ды і не толькі, на жаль, на месцах. Аднойчы нават паўстала пытанне аб закрыцці музея. На важнай нарадзе, дзе вырашаўся яго лёс, Арсенішвілі з каўказскім гумарам і смеласцю спытаў: чаму ніхто не бачыць прадметаў культу ў мадоннах Леанарда да Вінчы, а ў багародзіцах Рублёва—бачыць? Здаецца, гэта знешне прастадушнае пытанне выратавала тады музей, прымусіўшы задумацца бюракратаў і чыноўнікаў.

У экспедыцыях рублёўцы не толькі збіраюць экспанаты, але і аказваюць пасільную дапамогу мясцовым музеям. Экспедыцыі ператвараюцца ў своеасаблівую «хуткую дапамогу» — яны неадкладна выязджаюць у тыя мясціны, дзе помнікі знаходзяцца пад пагрозай.

Трэцяе жыццё музея, якое толькі-толькі пачынаецца, абяцае быць насычаным і напружаным. Уяўленне аб ім дае філіял музея імя Рублёва — былая маскоўская царква Пакрава ў Філях. Калі ў Андронікавым манастыры да сканчэння рэстаўрацыйных работ далёка, то ў Філях ужо бачны вынік шматгадовай работы рэстаўратараў і дзейнасці супрацоўнікаў музея.

Вечарамі, калі філіял закрыты для экскурсантаў, ён ператвараецца ў невялікую канцэртную залу з цудоўнай акустыкай. Тут гучыць старадаўняя руская музыка. Вакол царквы Пакрава ў Філях разбіваецца вялікі парк. Каля яго абмежаваны рух аўтатранспарту, каб вібрацыя глебы не пагражала помніку. У планах кіраўнікоў філіяла — арганізацыя тэатра, дзе іграліся б старадаўнія п'есы.

Комплексны падыход да культуры мінулага — вось што характэрна для дзейнасці філіяла. Вывучаецца не толькі архітэктура ці жывапіс мінулага, але і садова-паркавае мастацтва. Менавіта так плануецца будаваць у далейшым работу Цэнтральнага музея імя Рублёва. Але для гэтага неабходны дадатковыя выставачныя плошчы. Ужо перададзена Цэнтральнаму музею царква Сергія Раданежскага, якая знаходзіцца насупраць Андронікава манастыра. Тут плануецца стварэнне музея фрэскі. Вывучаецца пытанне аб перадачы яшчэ некалькіх старадаўніх помнікаў архітэктуры Масквы.

Супрацоўнікі музея імя Рублёва ўлюбёныя ў справу, якой прысвяцілі жыццё. Большасць з іх прыйшлі сюды пасля сканчэння Маскоўскага універсітэта і Ленінградскага мастацкага інстытута імя Рэпіна. Для іх мінулае непарыўна звязана з сучасным, і яны хацелі б, каб усе наведвальнікі іх музея адчувалі гэтую хвалюючую і вечную сувязь.

Міхаіл ЛАТЫШАЎ.

## НАШ КАЛЯНДАР

### *СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ—80 ГАДОЎ*



Старэйшаму беларускаму пісьменніку Станіславу Шушкевічу 19 лютага споўнілася 80 гадоў. Віншавальныя паштоўкі ў гэты дзень яму прыслалі не толькі калегі і знаёмыя, але і шматлікія юныя сябры—чытачы яго кніг.

Творчасць С. Шушкевіча—адметная старонка нашай дзіцячай літаратуры. Каля дзвюх дзесяткаў кніжак напісаў ён для дзяцей: «Звярыны баль», «Сарочы церамок», «Будзільнік», «Вясёлыя дзятлікі», «Барадаты камар», «Ліса з магнітафонам», «Казёл на верталёце»... На гэтых кніжках выхоўвалася не адно пакаленне нашай дзятвы. Трапнае і каларытнае слова роднай мовы ўваходзіла ў свядомасць дзіцяці з вершаў паэта, прачытаных яму бацькамі. А ў вершах гэтых адбываліся сапраўдныя цуды: размаўлялі дрэвы і кветкі, вучыліся ў школе сінічкі-балбатушкі, хадзіў у садзік чарнявы буслік. У добры, казачны і гарманічны свет, дзе ў згодзе жывуць людзі, птушкі і звяры, увёў саайго юнага чытача пісьменнік С. Шушкевіч.

Вершы ён пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады. Адзін з іх, прысвечаны Леніну, надрукавала ў 1924 годзе газета «Савецкая Беларусь». З таго часу С. Шушкевіч заўсёды займаўся літаратурнай творчасцю, у якія б цяжкія абставіны ні ставіў яго лёс. А выпрабаванняў на яго долю хапіла нават з лішкам. Прагны да [illegible]даў юнак паступіў у Белпедтэхнікум, пасля скончыў крытыка-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў Мінску. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, загадваў бібліятэкай Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. Быў членам літаратурных арганізацый «Маладняк» і БелАПП. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет.

Як і многія савецкія людзі ў канцы 30-х гадоў, быў беспадстаўна рэпрэсіраваны і сасланы ў Сібір. Яму давялося працаваць цесляром, плытагонам, бухгалтарам. Але ўсё перажытае не зрабіла яго скептыкам, пакрыўджаным на ўвесь свет, не пазбавіла жадання пісаць.

Шмат цікавага чытач знойдзе на старонках выбраных твораў С. Шушкевіча, якія выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла 10 гадоў назад. Тут і замалёўкі пра юнага партызана Героя Савецкага Саюза Марата Казея, і ўспаміны пра класікаў беларускай літаратуры Янку Купалу і Якуба Коласа. Тут і матэрыялы пра У. Хадыку, Б. Мікуліча, А. Вольнага, П. Галавача, К. Буйло і многіх іншых, хто прайшоў складаны і пачэсны шлях у жыцці, пакінуў значны след у літаратуры.

Як і ў маладыя гады, С. Шушкевіч многа ездзіць, часта сустракаецца са сваімі чытачамі, актыўна ўдзельнічае ў грамадска-літаратурным жыцці рэспублікі. Пражытае і перажытае, напісанае і сабранае ім, людзямі яго пакалення стала трывалым падмуркам духоўнай спадчыны для наступных пакаленняў.

## ДЗВЕСЦЕ ПАСТАНОВАК «РАВЕСНІКА»



**«Дарагі наш «Равеснік»! Дарагія Марына Мікалаеўна і Леда Адамаўна. Уся наша сям'я ганарыцца тым, што ведала вас, што мы былі часцінкай вялікага дружнага калектыву. Дзе б мы ні былі, пастараемся захаваць усё лепшае, што даў нам ансамбль. Жыві, наш «Равеснік»!**

**Сям'я Паповых: Літа, Сяргей, Спартак, Расціслаў, Уладзіслаў».**

**Гэтая тэлеграма прыйшла нядаўна ў Палац культуры Беларускага савета прафсаюзаў з горада Апатыты Мурманскай вобласці. Яе прыслалі былыя ўдзельнікі народнага ансамбля танца «Равеснік», якія летась развіталіся з гэтым калектывам: пераехалі разам з бацькамі на новае месца жыхарства. І ў гэты ж самы дзень мастацкі кіраўнік ансамбля народная артыстка БССР Марына Бяльзацкая і галоўны балетмайстар заслужаны работнік культуры БССР Леда Міхайлідзі атрымалі тэлеграму з Мінска ад... бабулі і дзядулі Паповых, якія віншавалі «Равеснік» з 30-годдзем: «Мы ўдзячны вам за незабыўнае дзяцінства нашых пецярых унукаў...»**

**Вось якую ўдзячнасць і любоў заслужыў гэты дзіцячы танцавальны калектыў ва ўсіх, хто калі-небудзь займаўся ў ім. 30 год існуе «Равеснік», і ўсе гэтыя гады ім кіруе М. Бяльзацкая, у мінулым балерына Вялікага тэатра СССР. Ансамбль выступаў у многіх гарадах Савецкага Саюза, у тым ліку і ў Маскве: у Калоннай зале Дома Саюзаў, на ВДНГ, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, на стадыёне імя У. І. Леніна. Цёпла сустракалі юных артыстаў «Равесніка» ўдзельнікі Алімпійскіх гульняў, XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, Сусветнага кангрэса жанчын, які праходзіў летась у Маскве. Калектыў выязджаў і ў ГДР, Фінляндыю, на міжнародны фестываль дзіцячай творчасці «Радасць Еўропы» ў Югаславію. Любяць дзеці беларускія танцы «Антон маладзенькі», «Весялуха», «Крутуха» і іншыя. «Беларускую польку» ў выкананні «Равесніка» славуты харэограф Ігар Маісееў назваў класічным, узорным варыянтам беларускага танца. А ўсяго ў рэпертуары ансамбля больш за 200 харэаграфічных пастановак: на музыку П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, М. Глінкі, С. Пракоф'ева, К. Дэбюсі, танцы народаў нашай краіны і свету. Многія з былых удзельнікаў ансамбля сталі прафесіянальнымі танцоўшчыкамі. Але «Равеснік» застаўся дарагім сэрцу кожнага, хто займаўся ў ім.**

**Н. ІЛЫН.**
**Фота аўтара.**



*РЭДКАЯ ПРАФЕСІЯ*

# ПЕЧНІКІ

Яшчэ два-тры дзесяцігоддзі таму назад гэтую прафесію нельга было назваць дэфіцытнай. Усе навакольныя вёскі ведалі, да каго звярнуцца пры неабходнасці. Сёння ж паспрабуйце знайсці печніка. У іншых раёнах, як кажуць, і днём з агнём... Ці мо знікла ў ім патрэба? Ні ў якім разе! І хоць «цясняць» сёння печкі з хат радыятары цэнтральнага ацяплення, колькі яшчэ будуецца дамоў, кватэр, дзе грубкам — самае пачэснае месца.

А якія раней пячных спраў майстры былі! Іншы з іх выладжыць такую печ альбо камін, што да ста гадоў грэе і не патрабуе рамонту. Раз прапаліш такую печ — і тры дні цёпла ў любыя маразы. Раней спецыяльнасць печніка перадавалася ад дзеда да ўнука, ад бацькі да сына. А сёння каму перадаваць? Прафесію закранулі тыя ж негатыўныя працэсы, што прывялі да пастарэння сельскага насельніцтва, да міграцыі моладзі з вёскі ў горад. Гэта толькі адна з магчымых прычын. Не рыхтуе, на жаль, такіх спецыялістаў і сістэма прафтэхадукацыі.

— Вось я, напрыклад, скончыў будаўнічы інстытут, а змураваць печку не змагу,— гаворыць інжынер рамонтна-будаўнічага гаспадарчаразліковага прарабскага ўчастка № 9 Навагрудскага раёна Віталь Якімаў.— Складаная гэта справа, вопыту і майстэрства патрабуе. Скажу, што нават і талент патрэбен. Але даецца ён не як «падарунак лёсу», а выпрацоўваецца стараннем, любоўю да справы.

Жыхарам Навагрудскага раёна, можна сказаць, пашанцавала на добрых печнікоў. Шмат гадоў працуюць на прарабскім участку вопытныя майстры Платон Кісляк і Іван Стромскі. Але, кажуць, у гадах абодва ўжо, сілы не тыя, ды і на пенсію хутка. Работы ж хапае. Трэба было рыхтаваць ім замену. І вось прыйшлі да іх каля двух гадоў назад маладыя яшчэ хлопцы Мікалай Траян і Уладзімір Крывіцкі, яны паспяхова асвоілі прафесію.

На адной з вуліц раённага цэнтра будаўнікі вялі капітальны рамонт драўлянага жылога дома. Там мы і пазнаёміліся. Хлопцы напачатку саромеліся, але, калі размова зайшла аб іх прафесіі, з ахвотай сталі расказваць пра сябе. Валодзю — 25 гадоў, Мікалай на два гады старэйшы. Амаль па паўтара года працавалі яны побач з ветэранамі. І самі прыглядваліся, і вопытныя печнікі паказвалі ім многае. А сакрэтаў, складанасцей у гэтай рабоце, якія можна спасцігнуць толькі практыкай, нямала. Самае ж галоўнае, што здолелі перадаць ім П. Кісляк і І. Стромскі,— любоў да справы.

— Гэта толькі на першы погляд здаецца, што ўсе печкі аднолькавыя,— гаворыць Валодзя Крывіцкі.— Будова іх вельмі і вельмі розная. Узяць хоць бы гэтую,— ён падышоў да грубкі, што стаяла ў пакоі:— Ля кожнай сценкі тут па тры каналы дымахода. Перш чым вылецець праз комін, гарачы дым шмат разоў абягае ўверх-уніз печку, перадае цяпло цаглінам. Можа быць розная колькасць каналаў дымахода, іх канструкцыя, шырыня... Урэшце, ад сукупнасці ўсіх фактараў і залежыць, як грэецца грубка, як трымае цяпло. Кожная печка са сваім «характарам».

— Нядаўна,— успамінае Валодзя,— заходзіць да мяне суседка. Глянь, кажа, нешта мая пліта дыміць. Зайшоў. Бачу, мешкаватая, як кажуць, печка, унутры зашмат прасторы. А канал дымахода занадта шырокі. Вось дым і круціць, клубіцца, а дзецца яму няма дзе. Комін жа несуразмерна вузкі. Завузіў я выхадны канал, і адразу ўсё на сваё месца стала. Дровы сталі гарэць аж трашчаць, цяга — як і трэба. Ох, і дзякавала ж гаспадыня!

— Даволі часта прыходзіцца бачыць, што печы зроблены кепска, — уступае ў размову Мікола. — А вызначыць, ці добра змайстравана печка таму, хто ў гэтым разбіраецца, вельмі проста. Для гэтага ў нас, як напрыклад, у тых, хто дыягнастуе маторы аўтамабіляў, ёсць свой «тэстар». Гэта, звычайна, падпалены кавалак газеты. Падносіш у розных частках печы і па нахілу полымя знаходзіш слабыя месцы.

— Ці задаволены прафесіяй? — пытаюся.

Вядома ж! І што важна — паважаюць іх у калектыве.

...Неўзабаве хлопцы зноў прыняліся за работу. Кожную печку яны муруюць некалькі дзён. Уважліва, выверана кладуць цагліны, каб з удзячнасцю ўспаміналі пра іх людзі. Бо добрая, цёплая, прыгожая печка — гордасць гаспадароў і іх, печнікоў, гордасць.

**Дзмітрый ЛУПАЧ.**







**Чалавек са стрэльбай... Як часам касавурымся мы на яго, абвінавачваючы ў бяздушнасці. Але не заўжды паляўнічага цікавяць трафеі. Адны бачаць у паляванні магчымасць добра адпачыць, другія — асабліва гарадскія жыхары — быць бліжэй да прыроды. А трэцім гэта захапленне дало новыя тэмы і сюжэты для стварэння бессмяротных твораў: Тургеневу — «Запісак паляўнічага», Някрасаву — «Сялянскіх дзяцей»... Ды і не будзе лішнім нагадаць знакаміты твор нашага земляка Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра».**

**Вядома, паляўнічыя адыгралі сваю адмоўную ролю ў збядненні нашай фауны. Дзесяткі відаў дзікіх жывёл і птушак зніклі беззваротна, а на ўзнаўленне некаторых, напрыклад, такіх, як зубр, мала і стагоддзя. Хаця, як піша Мікола Гусоўскі, не раз выдаваліся ўказы, якія забаранялі варварскае паляванне.**

**Указ пад пагрозай адказнасці строгай**
**Не дазваляе знішчаць ні зубрыцаў, ні моладзь.**
**І ашчаджае тым самым багацці лясныя.**

**На жаль, ніхто на гэтыя «прадпісанні» не звяртаў увагі. І толькі цяпер людзі задумаліся аб лёсе «братоў нашых меншых», зразумеўшы, што, калі не прыняць захадаў, можа здарыцца непапраўнае. Прыклад тут паказвае Беларусь: у нас створаны заказнікі і запаведнікі , праводзяцца міжнародныя семінары, прыняты шэраг пастаноў і законаў.**

**І ўжо сёння мы можам з упэўненасцю сказаць, што не бяднеюць, а багацеюць паляўнічыя ўгоддзі. На тэрыторыі Беларусі налічваецца каля 30 тысяч ласёў, крыху больш дзікоў, каля 400 тысяч зайцоў, і многа іншай дзічыны, на якую адкрыта паляванне. Толькі па строгіх правілах.**

**Самі паляўнічыя садзейнічаюць развядзенню дзікіх жывёл: вядуць падкормку ў цяжкія зімовыя дні, ратуюць іх у часы вясновых разводдзяў, садзейнічаюць міграцыі ў іншыя рэгіёны краіны.**

**...На арганізаванае мінскім абласным саветам паляўнічых і рыбаловаў закрыццё сезона ў «Макоўзу» сабралася шмат паляўнічых. Тут былі і традыцыйныя рытуалы, і жарты. А вось наконт паляўнічых трафеяў... Гэта засталося для нас сакрэтам.**

**НА ЗДЫМКАХ: дзік адчуў небяспеку; страляе паляўніцтвазнавец Аляксандр ШАХАЎ; спадарожнічае ўдача Сяргею САРАГАЎЦУ, калі ён выходзіць на паляванне з сабакам.**

## спорт

Аб выніках XV Алімпійскіх гульняў мы раскажам у наступным нумары. Сёння прапануем нашым чытачам кароткі агляд спартыўных падзей з удзелам прадстаўнікоў Беларусі.

У французскім горадзе Берсі адбыўся міжнародны турнір гімнастаў. Поспеху тут дабіліся савецкія спартсмены. Яны першынствавалі ў дзевяці з дзесяці відаў праграмы.

Мінская школьніца Святлана Багінская перамагла ў апорным скачку, на брусах, бервяне і ў вольных практыкаваннях.

Адбыліся гульні розыгрышу Кубка кубкаў еўрапейскіх краін па гандболу. Мінскі СКА прымаў на сваім полі нарвежскі клуб «Урад» з горада Порспруні. Беларускія спартсмены правялі матч упэўнена і дамагліся перамогі з лікам 33:20.

Футбалісты мінскага «Дынама» завяршаюць падрыхтоўку да новага сезона. У Сухумі яны сустрэліся са зборнай камандай чэхаславацкага горада Слуховец. Дынамаўцы забілі тры мячы ў вароты сапернікаў (вызначыліся Кандрацьеў, Шаліма, Шыркі), а прапусцілі ў свае два.

Група савецкіх тэнісістак робіць турнэ па ЗША. У горадзе Файрфаксе (штат Вірджынія) у міжнародных спаборніцтвах выступае беларуская спартсменка Наталля Зверава. Яна атрымала перамогі над амерыканкамі Л. Бондэр і Р. Уайт.

Вялікую цікавасць у аматараў спорту выклікае традыцыйны турнір па вольнай барацьбе на прыз трохразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя. Вядомыя спартсмены Балгарыі і ГДР, Венгрыі і Польшчы, Турцыі і Канады — усяго 67 барцоў правялі паядынкі ў мінскім Палацы спорту.

А напярэдадні тут прайшоў міжнародны турнір па баскетболу з удзелам зборных каманд Балгарыі, Канады, маскоўскага «Дынама» і мінскага «Гарызонта». Беларускія спартсменкі ўпэўнена перамаглі ўсіх сапернiц і занялі першае месца. Нядрэнна выступалі ў гэтыя дні прадстаўнікі нашай рэспублікі і на ўсесаюзных спаборніцтвах. На чэмпіянаце краіны па фрыстайлу ў Чымгане (Узбекістан) залаты медаль заваявала мінчанка Святлана Бандарчук. У Сочы прайшло зімняе першынство СССР па спартыўнай хадзьбе. Тут вызначыўся беларускі спартсмен Яўген Місюля. На дыстанцыі 30 кіламетраў ён перамог усіх сваіх супернікаў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 401.